МНЕНИЕ

# ВЫХОД У НАС ОДИН — ОБРАТИТЬСЯ К КУЛЬТУРЕ...

Наталья МИХАЛЬЧУК.

**Многократно подтвержденная истина: чем ниже общая культура, тем ниже уровень жизни.**

Смотрю на город, и буквально ощущаю, что происходит деградация общества... Особенно удручающее впечатление от старых микрорайонов. Газоны, видимо, не обновлялись со времени основания улиц, ямы, канавы, кочки. Разрушены тротуары, разбиты дороги во дворах и на улицах, они — как после военных действий. Но мы как бы привыкли к разрухе, не обращаем на нее особого внимания, как и на слова Клинтона, сказанные в Академии наук: «...преобразуйте землю, чтоб была достойной ваших детей».

И живем в грязных, обшарпанных, дурно пахнущих подъездах, а в них — замызганные, заплеванные лифты. Разрушены дворы (тоже не обновлявшиеся со времени постройки домов). Потому ясна и причина экономического упадка общества. Где видано, чтобы страна, народ которой живет в таких условиях, была сильна в экономике? Нет, если культура бытия на нижайшем уровне, то подавляется и воля народа, и человек не может полностью раскрыть свои возможности.

Разрушаются все сферы человеческой деятельности: наука, образование, медицина, сельское хозяйство. Разрушается экология: захламляются водоемы, лес превращается вокруг населенных пунктов в мусорные свалки. Словом, бытие определяет сознание — убедимся в правоте этой истины еще раз.

...Смотрю на Сторожевский рынок. Чем только не латался его забор: разнокалиберные доски, щиты из горбыля, двери какие-то, а вокруг — мусорные свалки. Ну не верю, что у города нет щитов для забора, что нет средств для благоустройства территории, для установки мусорных контейнеров. Ведь и усилий-то немного надо, чтобы навести порядок.

Обширная мусорная свалка перед 16-й поликлиникой. Ежедневно мимо нее проходит медперсонал на работу. А сколько проходит больных за день? И эта свалка забирает последние силы. Люди возмущаются, говорят о деградации.

А как назвать территорию перед общежитиями Политехнической академии? Антисанитария в целый квартал и разбитая дорога перед глазами студентов уже сколько лет.

В сплошных ямах тротуар перед входом в 3-й учебный корпус Медицинской академии и разрушенный, растоптанный угол между двумя вузами. Реставрировать бы этот уголок, пусть студентов радует красота!

Поселок Сокол, что находится у аэропорта Минск-2. Между двумя садиками строители решили проложить тротуар — вкопали бордюры, ограждающие тротуар, засыпали гравием и... ушли, забросив стройку. Спотыкаются мамы с детками уже несколько лет. Рядом школа. Дети проходят и видят такое зрелище. Денег нет на тротуар? Не верю. А рядом с высотными домами вырос поселок из 2-этажных коттеджей. На это деньги нашли, а на тротуар в 300 метров денег нет. И вообще поселок не благоустроен. Если так выглядит поселок авиаторов, то что говорить о других местах! Повсюду на виду у всех мусорные свалки, а о наших маленьких деревеньках я уже не говорю — они заброшены.

Но вернемся в город. Прохожу мимо колледжа связи. Колодцы, ограждающие окна в цокольном этаже, разрушены. И это в главном корпусе. На общежитии колледжа водосточная труба разошлась на стыках. Вода (во время дождя) льется на стену — стена разрушается.

Дворы ул. Золотая Горка, Гикало, Платонова. Тут с осени оставляют большие кучи листьев. На эти кучи бросают всякий хлам, и за зиму накапливается бог знает что. А сколько таких куч! Надо ли говорить, что эта антисанитария удручающе действует на людей?

Не хватит никакой бумаги, чтобы перечислить все.

Помню, приехала женщина из туристической поездки в ГДР. Одно восхищение этой страной. Но она сравнивала и страдала. Мы, сказала она, лодыри, во что превратили свою землю!

Обидно. Чтобы что-то изменилось в нашей жизни, нужно обновление. И не кое-какое, а очень существенное. Нужно, чтоб в нашу жизнь вошла красота. Именно она побуждает делать дивные вещи и высочайшего качества. Красота включает в человеке такой механизм, что тот незаметно становится другим. Красота творит добро — это же старая истина. Как и понимание того, что от нас самих многое зависит, а также от властей. Ведь это именно они должны организовать специалистов и нас, жителей, на восстановление уже полуразрушенного городского хозяйства, найти необходимые средства. Убеждена, что если поставить цель и знать, что это жизненно необходимо, то и средства найдутся. К тому же они неизбежно окупятся — ведь по мере восстановления нормальной, культурной жизни республика будет крепнуть и экономически. Это как поток, набирающий силу.

ФОТОРЕПОРТАЖ

# «КНЯЗЬ ГОЛИЦЫН» И ПЯТЬ МЕДАЛЕЙ В ПРИДАЧУ

Юрий ЗАХАРОВ, «ДВ».
Фото автора.

Согласитесь, в это кризисное время немногие предприятия могут похвастать своими достижениями. Как говорится, «не до жиру, быть бы живу». Падает производство, многие фабрики и заводы работают по нескольку дней в неделю, а то и в месяц, идет сокращение рабочих мест.

Наперекор всем трудностям работает коллектив Минского завода шампанских вин. Судите сами. Объем производства вырос на 122,1 процента, производительность труда увеличилась на 108,9, численность работающих — на 111 процентов. Сумели в Испании закупить и сейчас идет наладка линии, которая позволит выпускать 10 тысяч бутылок в час. Тяжелый ручной труд заменяется автоматизированным. Скоро вступит в строй новый административный корпус, где будут расположены медицинский пункт, стоматологический кабинет, два магазина, столовая, дегустационный зал.

В этот юбилейный год 50-летия Победы многим понравилось оформление бутылок с символикой орденов Великой Отечественной войны. В месяц их выпускается около 800 тысяч штук. Освоен выпуск красного игристого шампанского «Князь Голицын».

Марку минского шампанского хорошо знают в Чехии и Германии, Латвии и Польше и даже в далеком Вьетнаме. А по качеству выпускаемой продукции наше шампанское уверенно занимает одно из ведущих мест в Европе. Осенью прошлого года на проходившей в Минске международной ярмарке-кирмаше «Советское шампанское» было награждено пятью медалями.

НА СНИМКАХ: директор завода Т.В.БУЛДЫК; заместитель главного инженера В.С.ЧУМАКОВ, начальник цеха В.М.БОЙКО, наладчики испанской фирмы «MAS» Хоакин БАЙЕР и Хуан ЕЛАСКО за монтажом новой линии.







ГАЗЕТА ВЫСТУПИЛА. НАМ ОТВЕТИЛИ

## «БЬЕМ ТЕБЕ, СКЛОН, ПОКЛОН...»

**Под таким заголовком в газете «Добры вечар» от 30 марта был опубликован материал. В нем рассказывалось о больших неудобствах, которые терпят в распутье весной и осенью жители дома № 82 по ул.Рафиева. А создавались они из-за неблагоустроенного склона горы, подступающей близко к дому, и пришедшей частично в негодность ливневой канализации.**

**Управление капитального строительства Мингорисполкома рассмотрело выступление газеты и сообщает, что трест № 4 (СУ-8) обязуется восстановить ливневую канализацию и разрушающийся склон. Кроме того, управление капитального строительства передает ливневую канализацию на баланс ДЭУ Московского района.**

ЭКАНОМІКА

## КОЖНАМУ БАНКУ — ПА НЕБАСКРОБУ

Стаць уладальнікам першага ў горадзе Мінску небаскроба мае намер самы буйны ў рэспубліцы Акцыянерны камерцыйны банк знешнеэканамічнай дзейнасці.

Як паведамілі яго прадстаўнікі, завяршылася распрацоўка праекта новага офіса Белзнешэканомбанка. Згодна з праектам, новы 27-павярховы будынак упрыгожыць праспект Машэрава. Размесціцца небаскроб паміж гасцініцай «Планета» і інстытутам «Белдзяржпраект». Акрамя службова-адміністрацыйных памяшканняў, у будынку будуць сучаснае сховішча для каштоўнасцей, інфармацыйна-вылічальны цэнтр, канферэнц-зала, выдавецкі комплекс, аўтаматычная тэлефонная станцыя і блок грамадскага харчавання.

Ужо аб'яўлены міжнародны тэндэр на будаўніцтва гэтага будынка. У конкурсе ўдзельнічаюць і нямецкія фірмы, інтарэсы якіх прадставіў «Дойчэ Банк». Будаўнічыя работы мяркуецца завяршыць у 1997 годзе.

Кацярына Высоцкая, БЕЛІНФАРМ.

## ЧЭКАВАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ. ПАТРЭБНА ПАСКАРЭННЕ

Нягледзячы на фактычнае прыпыненне прыватызацыі рэспубліканскай і камунальнай уласнасці, чэкавая прыватызацыя ў рэспубліцы працягваецца. Як паведамілі ў Міністэрстве па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, да пачатку бягучага года свой намер прыняць удзел у прыватызацыі пацвердзілі 48,2 працэнта грамадзян рэспублікі, якія звярнуліся ў камісіі з заявамі аб налічэнні ім імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». 3,5 мільёна з іх (або 45,2 працэнта) ужо налічана звыш 311 мільёнаў чэкаў. Сертыфікаты ж у Ашчадбанку на суму, якая адпавядае 200 мільёнам чэкам, атрымалі звыш двух мільёнаў грамадзян рэспублікі. Як жа распарадзіліся беларусы, якія прынялі ўдзел у прыватызацыі, сваімі акцыямі? Па стану на 1 чэрвеня 1995 года, поўнасцю або часткова выкарысталі свае акцыі 625 тысяч чалавек (або 27,7 працэнта ад ліку асоб, якія атрымалі на рукі сертыфікат). Са спецыяльных чэкавых рахункаў грамадзян спісана больш чым 57 мільёнаў чэкаў, у тым ліку каля 25 мільёнаў выкарыстана на пакупку акцый (паёў) прыватызацыйных прадпрыемстваў, каля 10 мільёнаў — на пакупку акцый спецыялізаваных інвестфондаў; звыш 22 мільёнаў прададзена або перададзена іншым асобам. Выклікае асцярогу той факт, што сёння толькі крыху больш як трэцяя частка налічаных грамадзянам чэкаў забяспечана падрыхтаванай для продажу дзяржаўнай маёмасцю. З гэтай колькасці на продаж працоўным калектывам перададзена маёмасці на 36 мільёнаў чэкаў, для продажу насельніцтву праз Ашчадны банк — на 26 мільёнаў чэкаў, зарэзервавана для наступнага продажу праз аўкцыёны, конкурсы і па папярэдняй падпісцы на 31 мільён чэкаў. На думку экспертаў Міндзяржмаёмасці, неабходна значна паскорыць працэс прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці ў рэспубліцы. У адваротным выпадку, адсутнасць магчымасці ўкласці чэкі ў рэальную ўласнасць прывядзе або да згортвання чэкавай прыватызацыі, або да масавага продажу насельніцтвам чэкаў па «стратных» цэнах.

Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.

АРМІЯ

## ПАЧАЛАСЯ КАНТРОЛЬНАЯ ПРАВЕРКА

Праводзіцца яна ў беларускіх Узброеных Сілах па чатырох асноўных прадметах навучання: тактычнай, агнявой, страявой і фізічнай падрыхтоўцы. Адна з асаблівасцей цяперашняй праверкі заключаецца ў тым, што ў мэтах эканоміі паліва і іншых матэрыяльных сродкаў да мінімуму зведзена колькасць тактычных вучэнняў з выхадам тэхнікі ў поле. Акрамя таго, камандаваннем беларускай арміі шэрагу вайсковых часцей аказаны давер «праверыць самі сябе». Раней такога роду кантроль быў выключна прэрагатывай Галоўнага штаба беларускіх Узброеных Сіл.

Рыгор МАРОЗ, БелаПАН.

ЭКСКЛЮЗІЎНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# «УСЯ БЕЛАРУСЬ, АСАБЛІВА СТАЛІЦА, — ЗОНА ЭКАЛАГІЧНАГА БЕДСТВА»

Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, «ДВ».

На днях непадалёку ад выхаду з метрапалітэнаўскай станцыі «Плошча Незалежнасці» я сустрэў незвычайны пікет. За сталом сядзела маладая жанчына, якая заклікала мінчан падпісацца пад адкрытым лістом Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. Яго тэкст быў прымацаваны да сцяны будынка, побач з тэкстам размяшчалася схема нашага горада, заштрыхаваная рознай гушчынёю лініямі ў розных раёнах сталіцы. Больш рэдкімі — на ўскраінах паўночна-заходне-паўднёвай часткі і шчыльнейшымі ў цэнтры і на паўднёвым усходзе — там, дзе заводы і фабрыкі. Чорным прамавугольнікам адразу ж за гарадской рысай непадалёк ад Магілёўскай шашы было пазначана месца мяркуемага будаўніцтва хімічнага могільніка.

**Людзі тоўпіліся каля пікета, горка ўздыхалі, некаторыя з іх пасля чытання ліста адпускалі не дужа прыемныя словы ў адрас уладных структур, і ўсе падпісвалі той самы ліст.**

**Тлумачэнні ж цікаўным каля карты даваў член Савета Беларускай экалагічнай партыі, вучоны-медык Аляксандр Іванавіч Сыкала. Мінчане літаральна засыпалі яго пытаннямі. Счакаўшы, калі адсюль хваля заклапочаных гараджан крыху схлыне, я папрасіў вядомага ў рэспубліцы эколага даць невялічкае інтэрв'ю для «Добрага вечара».**

*— Як я разумею, Аляксандр Іванавіч, Ваша партыя і арганізавала гэты пікет...*

— Так, бо гэта наша партыйная справа — біць у званы з нагоды бядотнага становішча прыроднага асяроддзя. Я лічу, што не толькі радыяцыйны Чарнобыль знішчае наш народ. Большасць прадпрыемстваў, фермы і палеткі, дарогі і вуліцы — гэта своеасаблівыя хімічныя фабрыкі смерці жыхароў краіны.

*— У масавым варыянце?*

— У масавым. Мы становімся народам-калекай. Смяротнасць перавысіла нараджальнасць. На Беларусі практычна няма ніводнай сям'і са здаровымі дзецьмі. Гітлераўцы спальвалі людзей у час вайны ў крэматорыях. Наша дзяржава іх знішчае ў крэматорыях, так бы мовіць, запаволенага ўмярцвення ахвяр. Такім чынам, аб'ектыўна адбываецца экацыд... Іншае слова тут не падыходзіць, калі ўлічыць, што ў трэцяй частцы школьнікаў — перавышанае ўтрыманне свінцу ў крыві...

*— У лісце да Прэзідэнта вы пішаце, што Беларусь афіцыйна прызнаная сусветнай супольнасцю зонай экалагічнага бедства. Няўжо, сапраўды, ёсць такі міжнародны дакумент?*

— Ёсць. Яшчэ падчас гарбачоўскага кіравання ў бразільскім горадзе Рыо-дэ-Жанейра Савецкі Саюз узяў удзел у Міжнародным экалагічным кангрэсе. Форум тады падвёў вынікі неразумнага гаспадарання чалавека на планеце ў XX стагоддзі. Беларусь, беларуская экалагічная сітуацыя абмяркоўваліся асобным пытаннем — і кангрэс прызнаў нашу рэспубліку зонай экалагічнага бедства ў маштабе Зямлі.

*— Ваша партыя кідае цяжкае абвінавачванне ў адрас дзяржаўных чыноўнікаў, гэта значыць маючых уладу людзей, у экалагічнай бязграматнасці і безадказнасці. Ці не бярэце вы на сябе задужа вялікі грэх у гэткім асуджэнні «служак Кесаравых»?*

— Не бяром. Бо гэтыя «служкі», напрыклад, калі ў Вярхоўным Савеце прымаюць законы, то ніколі не думаюць пра экалогію. Калі б думалі, дык у Беларусь даўно прыйшлі б замежныя інвестары, каб укласці свае грошы ў нашы экалагічныя праграмы. Але інвестары не хочуць укладваць сёння ўласныя сродкі ў такія справы, бо наша заканадаўства ім не гарантуе ні вяртання грошай, ні атрымання прыбыткаў. Як бачыце, экалагічныя праблемы ўпіраюцца ў праблемы эканамічнага мыслення заканадаўцаў. У нашу хворую эканоміку...

*— Трошачкі наконт «увязкі» экалогіі з эканомікай праcвятліце, калі ласка...*

— Ведаеце, праз тое, што мы выпускаем сваю прадукцыю па старой тэхналогіі, без уліку сучаснай пастаноўкі праблем аховы прыроднага асяроддзя ў краінах Захаду, нашы МАЗы, напрыклад, не могуць нават перасекчы межы многіх еўрапейскіх дзяржаў. Яны — экалагічна небяспечныя! Навошта, скажаце вы, нам гаручае, якое пры спальванні ператвараецца ў атруту для чалавечага арганізма? А для таго яно, ядавітае, нам патрэбна, каб матор пацягнуў здаравенную махіну, на выраб якой ідзе ў тры разы болей металу (а значыць, і электраэнергіі, працазатрат), чым для выпуску адпаведных канкурэнтных заходніх марак. Зразумела, гэткі «міні-Чарнобыль» на колах можа знайсці збыт толькі ў Расіі або ў Азіі, дзе сітуацыя з экалогіяй таксама складаная. Так што экалогія і эканоміка — гэта праблемы-сёстры...

*— У такім выпадку і культура паводзін экалагічна безадказных людзей набывае асаблівае значэнне...*

— Правільна мяркуеце. Гэта з прычыны нізкай экалагічнай культуры чыноўнікаў, памножанай на іх безадказнасць, мы на цэнніках каля прадуктаў і прамысловых тавараў не знаходзім інфармацыі аб бяспецы таго, што нам прапануе гандаль. Гэта з прычыны нават не экалагічнага бескультур'я, а першабытнага варварства, асобныя кіраўнікі скідваюць хімічныя адходы са сваіх прадпрыемстваў і фермаў у вадаёмы. Ці ведаеце Вы, што ў большасці беларускіх вёсак з неглыбокіх калодзежаў нельга піць ваду — яна засмечана шкоднымі хімічнымі рэчывамі, цяжкімі металамі?.. Замежныя калегі, якія прыязджаюць да мяне ў госці, звычайна вязуць з сабой сюды свае ежу і пітво — баяцца частавацца тым, чым мы харчуемся.

*— Якое ж выйсце са становішча?*

— Пачынаць ачышчацца! Распрацаваць такое заканадаўства, каб і эканоміка, і культура, і мараль адпавядалі галоўнай мэце — ліквідацыі фізічнага і духоўнага Чарнобыля. Таму мы і звяртаемся з лістом да Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, каб ён прыклаў у гэтым кірунку свае намаганні. А наша партыя і, упэўнены, усе людзі дапамогуць выратаваць нацыю...



Комплексная оценка загрязнения окружающей среды города Минска

- относительно благоприятные
- ограниченно благоприятные
- неблагоприятные
- крайне неблагоприятные



